# Голас Радзімы

№ 18 (2056)
5 мая 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Нездарма гавораць: новы час — новыя песні. А песні звычайна гучаць на свята. Дарэчы, і святы бываюць не толькі старыя, традыцыйныя, але і новыя, народжаныя нашым часам. У Заслаўі, пад Мінскам, вось ужо каторы год адзначаюць забытыя Купалле і каляды. А ў самой сталіцы, здаецца, уваходзіць у традыцыю свята горада. Такога раней не было. Яно праводзіцца летам і набывае свае адметныя барвы. У распрацоўцы сцэнарыяў такіх святаў, іх аздабленні непасрэдны ўдзел прымаюць выкладчыкі і студэнты Беларускага інстытута культуры. Самабытным зместам напаўняюць іх выступленні аматараў мастацкай самадзейнасці, такіх, як удзельнікі народнага ансамбля танца «Купалінка» Дзмітрый АЎРАМЧЫК, Наталля ЖГУН, Аляксандр ХАДКЕВІЧ.

Фота С. КРЫЦКАГА.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## СУСТРЭЧА М. С. ГАРБАЧОВА З ПРАДСТАЎНІКАМІ ЦАРКВЫ

29 красавіка М. С. Гарбачоў прыняў у Крамлі Патрыярха Пімена і членаў Сінода Рускай праваслаўнай царквы мітрапалітаў Кіеўскага і Галіцкага Філарэта, Ленінградскага і Ноўгарадскага Алексія, Круціцкага і Каломенскага Ювеналія, Растоўскага і Новачаркаскага Уладзіміра, Мінскага і Беларускага Філарэта. Сустрэча адбылася ў адказ на просьбу, з якой да М. С. Гарбачова звярнуўся Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Пімен у сувязі з 1000-годдзем увядзення хрысціянства на Русі.

Выказаўшы гатоўнасць паслухаць высокіх прадстаўнікоў Рускай праваслаўнай царквы і адказаць на іх пытанні, Генеральны сакратар ЦК КПСС на пачатку гутаркі адзначыў, што 1000-годдзе ўвядзення хрысціянства на Русі атрымала ў краіне не толькі рэлігійнае, але і грамадска-палітычнае гучанне, бо гэта знамянальная вяха на многавяковым шляху развіцця айчыннай гісторыі, культуры, рускай дзяржаўнасці.

На шляху 1000-годдзя М. С. Гарбачоў выдзеліў сем дзесяцігоддзяў Савецкай улады, пры якой царква жыве і дзейнічае ў сацыяльных умовах, не маючых гістарычных аналагаў. Дэкрэт маладой Савецкай рэспублікі аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы знаменаваў сабой круты паварот у існаваўшых у Расіі царкоўна-дзяржаўных адносінах. Не ўсе іерархі змаглі адразу разабрацца ў сутнасці дэкрэта. Спатрэбіўся час для асэнсавання закладзеных у ім ідэй.

Рэлігійныя арганізацыі таксама былі закрануты трагічнымі падзеямі перыяду культу асобы. Гэтаму перыяду дадзена адназначная ацэнка як адступленню ад сацыялістычных прынцыпаў, адноўленых цяпер у сваіх правах. Выпраўляюцца памылкі, дапушчаныя ў адносінах да царквы і веруючых у 30-я і наступныя гады. Аб гэтым цяпер адкрыта і аб'ектыўна пішуць нашы газеты, часопісы. З іх старонак мы чуем і голас царквы. Канстытуцыя СССР гарантуе раўнапраўе ўсіх грамадзян. У імя рэальнага раўнапраўя і рэальнай свабоды веруючыя і няверуючыя здейснілі сацыялістычную рэвалюцыю, побач працавалі, узводзячы будынак сацыялізму, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны змагаліся на фронце, geраічна працавалі ў тыле. Адзіны лёс, найцяжэйшыя выпрабаванні згуртавалі ўсіх савецкіх людзей, якія адстойвалі сацыялізм у смяротнай схватцы з фашызмам.

Дастойныя самай высокай ацэнкі, падкрэсліў М. С. Гарбачоў, міратворчая дзейнасць рэлігійных арганізацый краіны, іх уклад у барацьбу за ядзернае раззбраенне. Такой жа высокай ацэнкі заслугоўваюць выступленні духавенства за гуманізм, справядлівыя адносіны паміж народамі, падтрымку ўнутранай і знешняй палітыкі Савецкай дзяржавы. Усё гэта адпавядае надзеям веруючых людзей, для якіх блізкі і зразумелы гуманістычны ідэал сацыялізму. Такая пазіцыя сустракае разуменне ва ўсім нашым грамадстве.

Пераважаючая большасць веруючых прынялі перабудову, уносяць немалы ўклад у рэалізацыю планаў сацыяльна-эканамічнага паскарэння краіны, у развіццё дэмакратыі і публічнасці. Іменна ў гэтых умовах стаў магчымы шырокі грамадскі дыялог, больш актыўны ўдзел рэлігійных дзеячаў у рабоце такіх грамадскіх фарміраванняў, як Фонд культуры, Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна, таварыства «Радзіма» і інш. Адказваючы на просьбы веруючых, Савецкая дзяржава перадала ў веданне царквы Свята-Данілаў манастыр у Маскве, гістарычны помнік «Опціна пустынь» у Калужскай вобласці, Толгскі манастыр у Яраслаўскай вобласці. Дзяржава забяспечыла неабходныя ўмовы для правядзення ў краіне святкавання 1000-годдзя ўвядзення хрысціянства на Русі.

Напярэдадні гістарычнай для Рускай праваслаўнай царквы падзеі хацелася б выказаць пажаданне, сказаў Генеральны сакратар ЦК КПСС, каб яна прайшла пад знакам згуртавання веруючых нашай краіны, усіх працоўных дзеля агульнай вялікай справы перабудовы, абнаўлення сацыялізму, поўнага раскрыцця яго гуманістычнага маральнага патэнцыялу. Гэта неаддзельнае сёння таксама і ад актыўнага ўдзелу ў барацьбе супраць ядзернай пагрозы, за выжыванне чалавецтва.

Звяртаючыся да М. С. Гарбачова, Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Пімен сказаў, што сваё служэнне царква заўсёды спалучала з клопатамі аб цэласнасці нашай Айчыны, аб яе абароне ад іншаземных замахаў, аб умацаванні справядлівасці ў грамадстве, аб развіцці духоўнай культуры. Патрыярх адзначыў, што працэс перабудовы аказвае дабратворны ўплыў на рост міжнароднага аўтарытэту нашай Радзімы. Яго з энтузіязмам успрымаюць у цэрквах свету, а Руская праваслаўная царква садзейнічае гэтаму, растлумачваючы рэлігійным людзям значэнне і мэту абнаўлення жыцця савецкага грамадства.

Станоўчыя вынікі працэсу перабудовы і абнаўлення атрымліваюць сваё адлюстраванне ў жыцці Рускай праваслаўнай царквы, іншых цэркваў і рэлігійных аб'яднанняў нашай краіны.

У праведзенай затым гутарцы члены Сінода Рускай праваслаўнай царквы выказалі сваю поўную падтрымку праводзімым у нашай краіне мерапрыемствам па перабудове, маральнаму абнаўленню ў грамадстве. Яны паставілі рад канкрэтных пытанняў, звязаных з забеспячэннем нармальнай дзейнасці праваслаўнай царквы.

М. С. Гарбачоў сказаў, што перадасць гэтыя просьбы і меркаванні ва ўрад, які ўважліва разгледзіць іх і прыме неабходныя рашэнні.

ПЕРШАМАЙ



**Урачыста і радасна, як і штогод, адзначылі сёлета 1 Мая — Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных усяго свету савецкія людзі. Але, бадай што, сёлета было менш пампезнай урачыстасці, а больш сапраўднай, непадробнай радасці. Людская плынь, якая вылілася на вуліцы і плошчы Масквы, нашай беларускай сталіцы Мінска, іншых гарадоў і гарадкоў, вялікіх сёл і малых вёсак краіны, несла ў сабе ўсе прыкметы вясны абнаўлення. Гэта можна было заўважыць і па афармленню калон дэманстрантаў, і па тварах людзей, і па іх думках. З усіх заклікаў найбольш адпавядаў настрою і імкненням савецкіх людзей той, які знаходзіў водгук у іх сэрцах:**

**— Усе сілы на перабудову, дэмакратызацыю грамадства і радыкальную рэформу!**

**Гэты Першамай быў яшчэ і Першамаем вялікіх надзей: падпісаны Дагавор аб скарачэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці, пакладзены пачатак да міру на зямлі Афганістана, чакаецца новая сустрэча ў вярхах — візіт прэзідэнта ЗША ў Савецкі Саюз.**

**Сёлетні Першамай быў ва ўсім непадобны на папярэднія.**

**НА ЗДЫМКУ: так адзначалі 1 Мая ў Мінску.**

ВІЗІТЫ

## ВЫСОКІ ГОСЦЬ З КНДР

30 красавіка ў Мінск прыбыў член Палітбю ЦК ППК, намеснік Прэм'ера Адміністрацыйнага савета Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, міністр замежных спраў КНДР Кім Ен Нам, які знаходзіцца ў СССР па запрашэнню Савецкага ўрада з афіцыяльным дружалюбным візітам.

1 мая карэйскія госці прынялі ўдзел у святочнай дэманстрацыі прадстаўнікоў працоўных Мінска.

У гонар высокага госця ад імя ўрада Беларускай ССР было дадзена афіцыяльнае снеданне, на якім Старшыня Савета Міністраў БССР М. Кавалёў і Кім Ен Нам абмяняліся прамовамі.

У гэты ж дзень Кім Ен Нам быў прыняты першым сакратаром ЦК КПБ Я. Сакаловым.

Кім Ен Нам усклаў вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі, ушанаваўшы мінутай маўчання памяць савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўскімі акупантамі.

2 мая члены карэйскай дэлегацыі мелі гутарку ў Міністэрстве замежных спраў БССР, у ходзе якой былі абмеркаваны пытанні дзейнасці дзяржаў у міжнародных арганізацыях у барацьбе за бяз'ядзерны і ненасільны свет, за стварэнне ўсеабдымнай сістэмы міжнароднай бяспекі.

Госці наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП, іншыя славутыя мясціны Мінска.

КОРМ ЭКСТРАКЛАСА

## ВЫБУХ ДЛЯ... ЯЧМЕНЮ

Каб палепшыць смак, пажыўнасць кармоў з ячменю, яго трэба... «узарваць». Да такога вываду прыйшлі спецыялісты камбіната хлебапрадуктаў, дзе ўведзена ў дзеянне першая ў Беларусі лінія па «бамбардзіроўцы» зернефуражу. Корм экстракласа, каштоўнасць якога вышэй звычайнага амаль на дзесяць працэнтаў, паступіў на жывёлагадоўчыя комплексы рэспублікі.

У ячмені, кукурузе, іншых злаках многа крухмалу, але жывёла яго засвойвае марудна. Можна збожжа прарошчваць, але калі размова ідзе аб тысячах тон, гэта нявыгадна. Выхад усё ж знайшоўся. Аказваецца, крухмал лёгка засвойваецца арганізмам, калі расшчэплены яго малекулы. А «ўзрыўчаткай» служыць хуткі пераход ад высокага ціску да атмасфернага. Гэты метад і прымяняюць на камбінаце.

ГАРАДСКІ ТРАНСПАРТ

## МАЗЫРСКІ ТРАМВАЙ

40 кіламетраў пуці, 14 цягавых падстанцый, вытворчы і адміністрацыйна-бытавы карпусы, іншыя аб'екты новага віду транспартнай камунікацыі ў Мазыры — трамвая — здадзены будаўнікамі ў эксплуатацыю. Цяпер тут ідуць наладачныя работы, абкатваюцца пуці, выпрабоўваецца кантактная сетка. Паралельна ідзе падрыхтоўка вадзіцеляў самаходных вагонаў.

Новы від транспарту намечана пусціць у першай палавіне бягучага года. Рознакаляровыя вагоны павязуць мазыран на нафтаперапрацоўчы завод і завод кармавых драждждэй, цеплаэлектрацэнтраль і іншыя прадпрыемствы.

ВЫЙШАЎ УКАЗ

## АХОВА ЖЫВЁЛЫ

Улічваючы пажаданні працоўных, прапановы грамадскіх арганізацый аб увядзенні адказнасці за жорсткае абыходжанне з жывёлай і прымаючы пад увагу, што такія дзеянні несумяшчальныя з мараллю сацыялістычнага грамадства і наносяць урон справе выхавання грамадзян, асабліва дзяцей, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР выдаў Указ «Аб адказнасці за жорсткае абыходжанне з жывёлай».

Установлена, што жорсткае абыходжанне з жывёлай, якое прывяло да яе гібелі або калецтва, а таксама катаванне жывёлы вядзе да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе папярэджання або штрафу, а ў асобных выпадках і да крымінальнай адказнасці.

Неабходныя дапаўненні ўнесены ў Кодэкс аб адміністрацыйных праваапарушэннях, Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы БССР.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРОДНА. Польская мова зноў гучыць на тэатральнай сцэне ў Гродне. Артысты Беластоцкага драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі паказваюць спектакль «Баль манекенаў», пастаўлены па п'есе свайго суайчынніка Бруна Ясенскага.

Летась творчыя калектывы наладзілі паміж сабой прамыя сувязі. Сыгралі ў сумесным спектаклі «Выбар» па раману Ю. Бондарава.

БРЭСТ. Пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры адкрыта дзіцячая харэаграфічная школа. У аддзяленнях народнага і класічнага танца вопытныя педагогі пачалі заняткі з 60 юнымі танцорамі. Дзеці маюць вялікую і малую балетныя залы, спецыяльныя класы, утульныя раздзявальні, душавыя. Харэаграфічная школа разлічана на навучанне 250 юных паклоннікаў Тэрпсіхоры.

БАРАНАВІЧЫ. Пасажырамі спецрэйса з Белавежскай пушчы ва ўрочышча Малахаўская паляўнічая дача сталі еўрапейскія алені. 19 лясных прыгажуноў добра перанеслі дарогу на аўтамабілях і цяпер асвойваюць вальер у заказніку. Баранавіцкія паляўнічыя ўзялі шэфства над чатырохногімі навасёламі: частуюць іх лугавым сенам, падкормліваюць канцэнтратамі і зернем, зрабілі прылады, якія адпужваюць ваўкоў.

МІНСК. Нацыянальныя беларускія рэцэпты ўспомнілі майстры сталічнага хлебазавода № 2. Цеста яны замясілі так, як гэта рабілі нашы бабулі: з двух сартоў мукі, дабавілі кмен, солад, бульбяную крупку. Хлеб «Нарачанскі» атрымаўся па-хатняму смачным, пахучым, прыгожым. Такім ён будзе не толькі ў дзень пакупкі, але і праз тыдзень: бульба добра захоўвае мякіш ад высыхання.

## ФІРМА НАБЫВАЕ САМАСТОЙНАСЦЬ

# КУДЫ КІРУЕЦЦА МЕРКУРЫЙ

**Абвешчаная больш года назад рэформа знешнегандлёвай дзейнасці ў СССР праходзіць першыя выпрабаванні практыкай. Буйныя здзелкі ад уласнага імя ажыццявілі ўжо многія з 70 прамысловых прадпрыемстваў краіны, якія атрымалі права самастойна праводзіць экспартна-імпартныя аперацыі. Наколькі паспяховай аказаліся спробы камерцыйных здольнасцей, з пункту гледжання саміх работнікаў вытворчасці! Пра гэта нататкі з галаўнога прадпрыемства вытворчага аб'яднання «Атлант» — Мінскага завода халадзільнікаў.**

У невялікім яшчэ дасье заводскай знешнегандлёвай фірмы «Верас» (Veras), біяграфія якой пачалася з чэрвеня 1987 года, я сустрэў цікавы дакумент, які з'явіўся на два месяцы раней. Гэта копія пісьма генеральнага дырэктара аб'яднання міністру, у якім даказвалася... немэтазгоднасць стварэння завадчанамі ўласнай экспартна-імпартнай фірмы.

Выходзіць, ад доўгачаканай самастойнасці тут адбіваліся? Працягнуты жэзл Меркурыя, а разам з ім і валютныя крыніцы кіраўніцтва прадпрыемства не прымала да апошняга моманту? Ды і сёння энтузіясты новага не схільны гаварыць аб цяжкасцях станаўлення ў мінулым часе.

### СУПРАЦІЎЛЕННЕ

Настрой тых дзён можна было вызначыць жыццёвай формулай «і хочацца, і колецца». Так, па новаму палажэнню прадпрыемства, якое самастойна ажыццяўляла экспарт, атрымлівала на ўласныя патрэбы 40 працэнтаў валютных даходаў. А гэта не тое, што ранейшыя чатыры працэнты. Але скептыкі бачылі іншае: завод атрымае яшчэ адзін планавы паказчык — валютны паступленні. Калі гаварыць мовай той жа жыццёвай мудрасці, — дадатковы шанс быць бітым за яго невыкананне. Навошта ж рызыкаваць, калі можна абгрунтавана адмовіцца? Напрыклад, адсутнасцю вопыту, спецыялістаў, ведання рынку.

Але, відаць, цяпер не тыя часы, калі верх бяруць аматары бясклопотнага жыцця. Да гонару калектыву, прыхільнікаў новага аказалася больш. Знайшліся і спецыялісты. Прычым усе мясцовыя, уласныя і з веданнем моў. Пра гэта прыемна гаварыць: кіраўніцтва знешнегандлёвага аб'яднання «Тэхназамежарг» Міністэрства замежнага гандлю СССР, якое раней займалася продажам мінскіх халадзільнікаў за мяжу, зрабіла ўсё магчымае, каб аператыўна памагчы ў падрыхтоўцы заводскіх кадраў. Падзяліліся ў Маскве ўсім вопытам, дакументацыяй, тым самым веданнем рынку, якім так палохалі. І цяпер «Тэхназамежарг» дапамагае маладой фірме.

— Аднак у цэлым мы пакуль лягчэй знаходзілі агульную мову з замежнымі партнёрамі, чым з адміністратарамі з суседніх міністэрстваў і ведамстваў,— гаворыць дырэктар фірмы «Верас» Васіль Досаў. І прыводзіць прыклад.—Весці валютныя аперацыі фірме спачатку было дазволена толькі праз Замежгандальбанк СССР у Маскве, хаця мінскі філіял таго ж банка размешчаны за некалькі кварталаў ад завода. Колькі часу і ўпартасці запатрабавалася, каб даказаць абсурднасць такой перастрахоўкі! А колькі падобных «указанняў» да сёння гірамі кладзецца на чароўныя крыльцы заводскага бога гандлю! Скажам, запаветныя 40 працэнтаў валюты сапраўды пайшлі на рахунак аб'яднання «Атлант». Але куды і колькі іх траціць—«на ўсякі выпадак» вырашае не завод, а міністэрства.

І усё ж Васіль Досаў, як і шаснаццаць яго калег па новай фірме, поўны аптымізму. Таму што ёсць галоўнае: гандаль пайшоў!

### ВЫНІК

Каб ацаніць першыя камерцыйныя вынікі, варта больш падрабязна ўявіць «спадчыну», якая дасталася фірме «Верас». Гэта амаль палавіна экспарту савецкіх бытавых халадзільнікаў. Менавіта такі экспартны патэнцыял аб'яднання «Атлант». За 14 год прысутнасці на знешнім рынку «Атлант» прадаў больш за 5 мільёнаў халадзільнікаў. Геаграфія — звыш 30 краін, у тым ліку і развітых.

Гэта, так сказаць, рэкламны бок. Але Васіль Досаў, у мінулым інжынер-канструктар, ён жа ўзначальваў экспартны аддзел завода, лепш за іншых ведае і адваротны бок таго гандлю, яго істотны недахоп — нізкую эфектыўнасць. Таму галоўным станоўчым вынікам першых здзелак фірмы яе дырэктар лічыць тое, што ўдалося значна павысіць эфектыўнасць знешнегандлёвых здзелак. Якім чынам?

— Дзякуючы двум фактарам — самастойнасці і зацікаўленасці, — тлумачыць Васіль Досаў. І зноў прыводзіць прыклады.

Завод не мае неабходнага абсталявання для в[illegible]ку гарызантальных ма[illegible]зільнікаў тыпу скрыні. Патрэба ж у іх асабліва вялікая сярод сельскіх жыхароў. Падобную прадукцыю выпускае югаслаўская фірма «Гарэнне». П[illegible] Замежгандаль завод бо[illegible] за два гады не мог атрымаць згоду на супрацоўніцтва з югаслаўскімі калегамі. Са стварэннем жа ўласнай фірмы пытанне вырашылася літаральна за два дні.

Не, рынкаў «Атлант» не згубіў. Ужо заключаны гандлёвыя кантракты з фірмамі Аўстраліі, Бельгіі, Галандыі, Польшчы, Венгрыі, завяршаецца афармленне буйных пагадненняў з Францыяй і іншымі краінамі.

### ПРАВІЛА АДЗІНАЙ ЯКАСЦІ

На Мінскім заводзе халадзільнікаў няма традыцыйнага яшчэ для многіх прадпрыемстваў краіны дзялення канвеера на экспарт і «для сябе». Вырабляць усю прадукцыю на ўзроўні сусветных стандартаў — няпісаны закон калектыву.

Не адразу і не лёгка прыйшлі да правіла адзінай якасці. На заводзе канчаткова зразумелі, што нельга выдатна працаваць на экспарт і абы-як рабіць зборку прадукцыі для ўнутранага рынку. Такая пазіцыя разбэшчвае.

Сёння ў мінскіх халадзільнікаў надзвычай высокая рэпутацыя. Сярод савецкіх пакупнікоў гэта марка асабліва папулярная. Няма практычна рэкламацый і з-за мяжы.

Я спытаў, колькі халадзільнікаў завод змог бы экспартаваць сёння.

Каля мільёна штук у год, адказвалі мне. А гэта — уся вытворчая праграма. Заявак і прапаноў ад контрагентаў за мяжой дастаткова.

Цяпер на «Атланце» поўным ходам ідзе тэхнічная рэканструкцыя. Але ўжо сёння ў яе праект уносяцца змяненні. На заводзе назапашваюць валюту для набыцця абсталявання, на якое раней не маглі разлічваць. Канструктары распрацавалі новую мадэль, якая, па іх словах, будзе гэтак жа адрознівацца ад сённяшніх халадзільнікаў, як каляровы тэлевізар ад чорна-белага. Але і гэтую мадэль тут называюць пераходнай да новага пакалення камфортных і надзейных апаратаў, нараджэнню якіх у немалой ступені дапамажа і цесны кантакт са знешнім рынкам.

### ПРАБЛЕМЫ

З пазіцый гаспадарчага разліку, самастойнасці і проста разумнага сэнсу асабліва прыкметныя сталі старыя недахопы мінулага падыходу да справы і новыя праблемы.

На заводзе іх дзеляць на дзве часткі. Тыя, якія можна вырашыць з дапамогай уласных намаганняў, і тыя, якія патрабуюць неадкладных мер на больш высокім узроўні.

На «Атланце», як дажджу ў доўгую засуху, чакаюць кардынальнага паляпшэння сістэмы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Замест прынцыпу размеркавання фондаў час пераходзіць да аптовай куплі-продажу матэрыялаў. Толькі тады з вытворчых праграм заводаў-сумежнікаў знікнуць бляклыя пластмасы, нястойкія, брудных адценняў фарбы, няякасная электраправодка і іншыя «дробязі», якія сёння за валюту набываюцца за мяжой, каб туды ж быць прададзенымі.

На жаль, жыццё пацвердзіла і галоўную апаску праціўнікаў знешнегандлёвай самастойнасці. Уласная знешнегандлёвая фірма ставіць прадпрыемства, якое яе мае, у нявыгадныя фінансавыя ўмовы ў параўнанні з заводамі, якія прадаюць сваю прадукцыю па-старому, праз Міністэрства замежнага гандлю СССР. Таму што па новаму палажэнню няма таксама сталі атрымліваць 40 працэнтаў валюты ад свайго экспарту. Але пры гэтым не трацяць з іх капейкі на накладныя расходы. Выходзіць, пасіўным быць усё яшчэ зручней?

Не былі б мае субяседнікі з фірмы «Верас» сапраўднымі камерсантамі, калі б не думалі яны і пра традыцыйныя няўдачы арганізацый самой вытворчасці. У міжнароднага гандлю ёсць уласныя праблемы. І, клапоцячыся пра выгаду сваю і дзяржавы, завадчане маюць права прапаноўваць варыянты іх вырашэння.

— Ці лічыў хто-небудзь нашы страты ад недастатковай арганізацыі тэхнічнага сервісу савецкіх халадзільнікаў за мяжой?— гаворыць Васіль Досаў.— Таму што з кожнага кантракта мы здымаем пэўную долю цаны за перадачу замежным фірмам гарантыйнага сервісу. Яшчэ больш даходны артыкул — абслугоўванне пасля гарантыі. І тут мы не дабіраем валюту з-за таго, што не маем за мяжой уласных тэхнічных пунктаў. Наколькі ведаю, гэта праблема не толькі нашага аб'яднання. А «эканомія» на рэкламе?!

...Так, праблемы, аб якіх разважае дырэктар заводскай знешнегандлёвай фірмы, ляжаць за межамі яго паўнамоцтваў. Але не павінна быць сёння мяжы пачуццю гаспадара, мяжы зацікаўленасці і заклапочанасці агульнай справай, імя якой — перабудова. Мне здалося, што на «Атланце» думаюць і дзейнічаюць менавіта так.

Вячаслаў УЛАДЗІМІРАЎ.



Каля сарака арыгінальных узораў мэблі будзе распрацавана сёлета спецыялістамі навукова-вытворчага аб'яднання «Мінскпраектмэбля». Гэта лабараторныя камплекты для школ, кніжныя шафы па заказу венгерскіх фірм, розныя паліцы для пастаўкі ў ФРГ. Спадабаюцца пакупнікам і новыя варыянты вельмі папулярных мэблевых набораў для гасцiных.

НА ЗДЫМКАХ: вядучыя дызайнеры аб'яднання Мікалай ПУПКО, Аляксандр АЗОЎКІН і загадчык мастацка-канструктарскага сектара Алег КРЫВЯНОК (злева направа) за распрацоўкай новых узораў мэблі; удала спалучаюцца набор корпуснай мэблі «Палессе» і мяккі гарнітур «Мураўка».

Фота У. ШУБЫ.



# «ПОНІ» З МАГІЛЁВА

Неяк Мечыслаў Бедункевіч убачыў у часопісе «Аўтамабільны і дарожны транспарт» не зусім звычайную канструкцыю. Быў ён кіраўніком канструктарска-тэхнічнага аддзела па таварах народнага спажывання Магілёўскага аўтазавода і, відома ж, зацікавіўся тэхнічнымі характарыстыкамі спартыўнай машыны, зробленай у Маскоўскім аўтадарожным інстытуце. На спартыўным аўтамабілі можна было, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і... араць, сеяць. Надоўга думаючы, адправіў пісьмо ў Маскву...

Вынікам такой цікаўнасці стала заключэнне дагавора паміж калектывам Магілёўскага аўтазавода і распрацоўшчыкамі аўтадарожнага інстытута. На заводзе задумалі стварыць машыну, якая б у сялянскай гаспадарцы замяніла каня.

— Асноўнае назначэнне нашай будучай машыны —транспартныя работы, — расказвае распрацоўшчык канструктары. — Да яе можна будзе мацаваць цялежку, мы навучым яе араць, культываваць, баранаваць і нават касіць. Канструктары далі будучаму дзецішчу цікавую назву: «пазадарожны транспартны сродак». Дарэчы сказаць, ні ў нас у краіне, ні за мяжой, як пераканаліся аўтазаводскія канструктары, аналагаў падобных машын няма.

Летась к кастрычніку «матарызаваны конік» быў гатовы. І ледзь машыну выкацілі з цэха, далучыўшы да святочнай калоны на дэманстрацыі, як тут жа навенькаму аўтамабілю нехта даў ласкавае імя «Поні». І хаця «Поні» — у многім яшчэ машына «сырая», ужо цяпер можна сказаць, што магілёўскія аўтамабілебудаўнікі выходзяць на той узровень прадпрымальнасці і ініцыятывы, які неабходны ва ўмовах перабудовы.

Нельга сказаць, каб «Поні» нараджалася лёгка: канструктар прыдумаў, рабочы зрабіў, і машына паехала. Якраз сёння намеціліся пэўныя творчыя рознагалоссі паміж распрацоўшчыкамі аўтазавода і інстытута. Таму вырашылі канструяваць сёлета дзве новыя мадэлі аўтамабіля: якая з іх акажацца больш жыццяздольнай на выпрабаваннях, тая і пойдзе ў вытворчасць. А затым далей — да пакупніка. Не вырашаны ўсе праблемы і з пастаўшчыкамі. Але гэта цяжкасці часовыя.

І апошняе: некаторыя лічбы, якія дапаўняюць характарыстыку машыны. На заводзе мяркуецца выпускаць два варыянты аўтамабіля: першы — з хуткасцю ад 3,1 да 50 кіламетраў у гадзіну, другі — ад 2,5 да 43. Магутнасць рухавіка будзе складаць 6,4 конскай сілы. У будучым годзе магілёўскія вынаходнікі выпусцяць першую партыю «Поні».

С. МОКІН.

## ИЗ ИСТОРИИ ПАРТИЙНЫХ КОНФЕРЕНЦИЙ

# СОВЕРШЕНСТВУЯ ДЕМОКРАТИЧЕСКИЕ ПРИНЦИПЫ

**В июне этого года должна состояться девятнадцатая партконференция. Со времени проведения последней прошло почти полвека. Почему партия возвращается к идее проведения конференций, какова вообще их история? На эти и другие вопросы отвечает кандидат исторических наук, доцент кафедры истории КПСС Белорусского политехнического института Владимир ЕРМОЛАЕВ.**

Обращаясь к теме предстоящей XIX Всесоюзной конференции КПСС, неизбежно испытываешь потребность еще раз перелистать страницы истории партии, вчитаться в партийные документы. Пожалуй, чаще других при этом возникают вопросы: В чем разница между съездами и партконференциями? Как складывалось историческое сочетание двух форм — съезда и общепартийной конференции, есть ли различие в их статусах и полномочиях? Почему в течение сорока лет конференции не созывались?...

Видимо, подобные вопросы интересуют и читателей нашей газеты. В ответах на них не только история, но и сегодняшний день нашей страны, когда партия приступила к революционной по сути и невиданной по масштабам работе, направленной на обновление советского общества, на перестройку.

Съезд и общепартийная конференция... Оба эти форума представляют собой высший коллективный орган партии. И в то же время между ними есть разница. Известно, что съезд КПСС — это верховный, самый полновластный орган партии. Съезд вырабатывает генеральную линию партии, определяет основные направления политики, стратегию и тактику. Он заслушивает и утверждает отчеты Центрального Комитета, Центральной ревизионной комиссии, других руководящих органов, пересматривает, изменяет и утверждает Программу и Устав КПСС, решает важнейшие вопросы внутренней и внешней политики партии и Советского государства. Как видим, полномочия и функции съезда широки и ответственны.

Конференции представляют собой форму коллективного обсуждения насущных задач политики партии, назревших проблем партийной работы между съездами. И созываются они по мере необходимости. За время существования нашей партии состоялось 18 конференций, семь из них — в дооктябрьский период и одиннадцать — в послеоктябрьский.

Первую конференцию РСДРП организовали съехавшиеся в Таммерфорс (Финляндия) делегаты предполагаемого IV съезда партии, открытие которого было назначено на 10 (23) декабря 1905 года. Однако начавшееся в Москве вооруженное восстание, забастовки железнодорожников, преследования царской охранки сделали невозможным приезд представителей ряда партийных организаций. Стало очевидно, что кворума, необходимого для открытия съезда, не набирается. Тогда вместо съезда и состоялась первая в истории партии конференция, ставшая известной как Таммерфорская. Председательствовал на ней В. И. Ленин. «Это был самый разгар революции, — вспоминала Н. Крупская, — каждый товарищ был охвачен великим энтузиазмом, все готовы к бою. В перерывах учились стрелять». Конференция обсудила тактику партии в первой российской революции, другие задачи, которые должен был решать съезд.

В истории партии известна не одна общепартийная конференция, которая, собираясь в переломные моменты революционной борьбы, принимала решения на уровне съезда. Такие конференции избирали ЦК или вносили изменения в его состав и, следовательно, по своему значению могли равняться съездам.

Это относится не только к Таммерфорской конференции. Пожалуй, наиболее выразительным примером в этом смысле стала шестая (Пражская) Всероссийская конференция РСДРП, состоявшаяся в январе 1912 [illegible] Готовилась она в [illegible]роятно сложных условиях. И не только вследствие арестов, трудностей выезда делегатов за границу, недостатка средств. После поражения [illegible]ийской революции 1905—[illegible] годов партийные организации на местах еще только начинали оправляться от тяжких ударов, нанесенных царизмом. Положение усугублялось тем, что в результате раскольнической деятельности оппортунистических групп и течений (ликвидаторы, троцкисты, отзовисты) центральные органы партии оказались разрушенными. Оппортунисты пытались подорвать партию изнутри. Ликвидаторы, например, выступали против сохранения нелегальных партийных организаций, что привело бы к ее перерождению. Вместе с ликвидаторами, отзовистами (они требовали отказа от легальных форм работы) борьбу против партии вел также Троцкий. Под лозунгом единства любой ценой на формальной, беспринципной основе он добивался сохранения в рядах РСДРП ликвидаторских элементов, которые, по существу, порвали с партийностью. Эти группы и течения создавали независимые организации и центры. Дело дошло до того, что более двух лет совершенно не функционировал ЦК. Его Заграничное бюро состояло из ликвидаторов (открытыми представителями этого направления были меньшевики). Русское бюро ЦК, долгое время остававшееся на позиции примирения с ликвидаторами, после многочисленных арестов в 1911 году прекратило своё существование.

Огромными усилиями большевиков удалось образовать в октябре 1911 года Российскую организационную комиссию по созыву партийной конференции, а не съезда. Такое решение было принято ввиду тяжелого положения не только местных, но, как уже сказано, и центральных организаций. Это не давало оснований надеяться на достаточное представительство, чтобы можно было провести съезд.

Пражская конференция проходила под влиянием и при активном участии В. И. Ленина. Он был председателем конференции, выступал с тремя, основными, докладами. Известно около десяти выступлений В. И. Ленина и по другим вопросам порядка дня, а также более 30 председательских реплик, кратких замечаний по речам делегатов. Из 23 резолюций пять полностью написаны В. И. Лениным, еще пять проектов имеют его существенную смысловую правку.

Конференция определила политическую линию и тактику партии в условиях нового подъема рабочего движения, завершила длительную борьбу большевиков против враждебных течений внутри его, укрепила и сплотила партию. «Уцелело не только знамя российской с.-д., ее программа, ее революционные заветы, уцелела ее организация, которую могли подрывать и ослаблять, но не смогли сместить дотла никакие преследования», — говорилось в изданном ЦК «Извещении» о состоявшейся конференции. Конференция определила тактические задачи на ближайший период, решено было создать общероссийскую газету «Правда». Был избран Центральный Комитет партии в составе семи человек во главе с В. И. Лениным.

Равнозначна съезду и седьмая (Апрельская) Всероссийская конференция РСДРП(б). Она состоялась в Петрограде в 1917 году после Февральской буржуазно-демократической революции, свергнувшей царя. Это первая легальная конференция партии большевиков, вышедшей из подполья.

В основе доклада В. И. Ленина лежали знаменитые Апрельские тезисы, где давалась развернутая характеристика путей перерастания буржуазно - демократической революции в социалистическую. В то же время доклад охватывал злободневные проблемы политического положения в России, отношения к войне и к буржуазному Временному правительству, образованию Советов рабочих и солдатских депутатов, двоевластию и т. д. Многое из того, что говорил В. И. Ленин, воспринималось непривычно, было новым, расходилось с распространенными среди части большевиков взглядами. **На конференции позицию Владимира Ильича поддержали А. Бубнов, И. Сталин, Г. Зиновьев. Не соглашались Л. Каменев, М. Калинин, В. Ногин, А. Рыков — его единомышленники, старые товарищи по партии. В. И. Ленин в свободной дискуссии убеждает, разъясняет. С ним спорят, отстаивают, доказывают. Уместно здесь сказать, что Владимир Ильич никогда в подобных случаях не сводил счетов со своими оппонентами. Он продолжал сотрудничество с теми, кто пересматривал свои позиции, кто искренне осуждал ошибки и стремился исправить их, делом компенсировать тот вред, который причинил партии сознательно или несознательно.**

Апрельская конференция обосновала генеральную линию партии на победу социалистической революции в России, поддержала точку зрения В. И. Ленина, взяв курс на мирный переход к социалистической революции. Тайным голосованием был избран ЦК во главе с В. И. Лениным.

После победы Великой Октябрьской социалистической революции конференции по-прежнему созывались часто — с 1919 по 1929 год их было девять. Сложилась такая практика: съезд обсуждает и решает вопросы в принципе, а конференции поручает готовить предложения, документы, анализировать положение дел. По такой схеме, например, строилась работа десятой Всероссийской конференции РКП(б), созванной спустя всего два с половиной [illegible]яца после X съезда (май [illegible] года). Конференция дополнительно обсудила сложные проблемы, связанные с введением и практической реализацией новой экономиче[illegible]ой политики (НЭП). Значе[illegible] НЭПа было так велико, [illegible] требовало со стороны партии постоянного внимания, безотлагательного изучения и обобщения накапливаемого опыта.

Важное место в жизни партии и страны заняла шестнадцатая конференция (апрель 1929 года), одобрившая первый пятилетний план.

**Заметим, что к этому времени положение о конференциях уже было внесено в Устав партии. Но вот в 1934 году на XVII съезде ВКП(б) оно из Устава исчезло. Исчезло не в пользу демократизации жизни партии. Ведь XVII съезд был, пожалуй, первым, который прошел в обстановке «всеобщего единодушия», так характерного потом для периода культа личности.**

На следующем, XVIII съезде ВКП(б) (1939 год), положение о конференциях в Уставе партии было восстановлено. Подробно определялось место конференций среди высших органов партии, их правомочия. Целью конференции, по логике докладчика А. Жданова, должно было стать выдвижение новых кадров. Она могла пополнять состав членов ЦК из числа кандидатов в члены ЦК, избранных съездом, и взамен их избирать соответствующее количество новых кандидатов в члены ЦК. Надо полагать, что это была вынужденная мера: из 138 членов и кандидатов в члены ЦК, избранных на XVII съезде ВКП(б), к 1939 году ушли из жизни 120 человек.

Последняя конференция, восемнадцатая, состоялась в феврале 1941 года. Это было время, когда в нашей стране уже ощущалось предгрозовое дыхание войны. Поэтому речь на конференции шла в первую очередь об укреплении оборонного потенциала СССР. В целом она была посвящена чисто практическим вопросам экономического развития страны.

**С тех пор в течение сорока семи лет конференции не созывались. С чем это связано? Прежде всего с тем, что Уставы, утвержденные XIX и XX съездами КПСС, вообще не предусматривали проведение таких форумов. Оказавшись вне критики, Сталин единолично решал многие вопросы, в том числе и организационные. Даже пленумы ЦК проводились нерегулярно, более тринадцати лет не созывались съезды.**

**И лишь XXIII съезд КПСС счел необходимым внести в Устав запись о партконференциях. Однако функции их тогда не были определены, и они не созывались по-прежнему. Как отметил январский (1987 года) Пленум ЦК КПСС, на рубеже 70-х—80-х годов партийные органы не уделяли должного внимания строгому соблюдению ленинских принципов и норм партийной жизни. Нарушалась коллегиальность в работе, была ослаблена роль выборных органов. В годы застоя вновь утвердилась господство «всеобщего одобрения», массового «единодушия».**

Сегодня в процессе революционного обновления общества многое в стране меняется, в том числе и в деятельности партии. Совершенствуется механизм формирования руководящих партийных органов, повышается контроль за их деятельностью, развиваются гласность, критика и самокритика. Вполне естественно, что в новых условиях партия возвратилась к идее проведения партконференций. В их компетенцию могут входить практически все вопросы, решаемые на уровне съезда, вплоть до кадровых.

Решение созвать в текущем году (28 июня) XIX Всесоюзную партийную конференцию принято, как известно, на июньском (1987 года) Пленуме ЦК КПСС. У советских людей сообщение о предстоящей конференции вызвало огромный интерес. Думается, что и наши зарубежные читатели не обойдут вниманием работу этого важного форума советских коммунистов.

Какие проблемы предстоит обсудить партийной конференции? Они названы в речи Генерального секретаря ЦК КПСС М. С. Горбачева на февральском (1988 года) Пленуме ЦК КПСС. Разговор будет вестись прежде всего о перестройке политической системы, чтобы придать ей новое содержание и динамизм, внести в нее новые структуры и элементы. При этом среди наиболее важных будут вопросы повышения роли партии на сегодняшнем этапе перестройки. Свободный обмен мнениями поможет выявить, что сейчас должно меняться в формах, методах и способах деятельности партии, какими конкретными путями должна идти демократизация внутрипартийной и общественной жизни в целом. Конференция затронет вопросы культуры, духовной жизни общества. Ожидается также рассмотрение сложных вопросов в области национальных отношений. И, безусловно, в центре внимания станут задачи реализации радикальной экономической реформы, от успеха которой зависит выход нашей страны к вершинам социально-экономического прогресса.

Разобраться во всем этом под силу такому авторитетному, демократическому по самой своей сути коллективному органу партии, каким и должна стать XIX партийная конференция.

**Владимир ЕРМОЛАЕВ.**

## EN LA TIERRA NATAL





*En la aldea Lesnaya, poblado central del koljós "40 años de Octubre" del distrito de Baranovichi, hace poco abrió sus puertas un consultorio. Fue construido y dotado con equipo médico con recursos de la misma hacienda. Los habitantes de once aldeas de los alrededores, más de tres mil personas, reciben aquí asistencia médica calificada y pasan el axamen diagnóstico.*

*En los poblados del distrito en total trabajan cinco consultorios, en cada hacienda hay un puesto obstétrico y de primeros auxilios.*
*En las fotos:*
*Nuevo consultorio en la aldea Lesnaya, en la sala de tratamientos: Alla YURENIA (a la izquierda) Nina Pronievich preparan aparatos para el examen diagnóstico.*

*Fotos E. KOBIAK.*

# ¿Que es la burocracia?

La burocracia no es una muchacha de desarrollo acelerado, sino una dama de edad respetable. Sus rasgos genéricos ya han sido descritos por nuestros antepasados.

Creemos que los rasgos imprescindibles y suficientes de la burocracia consisten en lo siguiente. En primer lugar, es el profesionalismo de los funcionarios (su servicio en el aparato administrativo no es una ocupación adicional ni temporal, sino su profesión y la fuente permanente de sus ingresos). Segundo, es la dependencia jerárquica de los funcionarios (la posición, la carrera y, en fin de cuentas, el futuro del funcionario dependen exclusivamente de sus superiores, y no de las personas, cuyas actividades dirige tal funcionario o que dependen de las acciones de éste).

Desde luego, la definición de los rasgos fundamentales de la burocracia no revela todavía sus raíces socio-económicas, políticas y culturales. Sin embargo, ello permite encontrar la clave de los "secretos" y "paradojas" burocráticas, destruir los estereotipos que se formaron en la conciencia de las masas.

Con frecuencia exclamamos: "¡La burocracia es un ejército de parásitos que solo crean la apariencia del trabajo!". A veces así es en realidad. Pero a veces no. Los sistemas burocráticos realizan en muchos casos una labor necesaria, aunque lo hagan mal. Lenin, que era un luchador ferviente contra la burocracia, escribía que al proletariado, que venció en la Rusia con un capitalismo insuficientemente desarrollado, le será más difícil superar este mal que al proletariado de Alemania, donde "el aparato burocrático tiene una gran historia, sabe exprimir todo el jugo, pero sabe también hacer avanzar el asunto, en vez de desgastarse meramente los pantalones, como suele suceder en nuestras oficinas". Si la característica decisiva de los sistemas burocráticos fuera su inutilidad y futilidad completa, la lucha contra ésta hubiera sido mucho más fácil: bastaría cerrar una que otra oficina, y la victoria estaría garantizada.

Y en lo que concierne al "papeleo", destacado por Dal en la definición de burocracia, éste acompaña generalmente a la burocracia sin ser su característica sustencial. Y no me refiero a que la técnica moderna permite desarrollar la tecnología de la administración sin papeleo. Es que con frecuencia los sistemas burocráticos prefieren utilizar orientaciones que no se registran en papel, sino que se transmiten por la cadena jerárquica. Por eso las campañas por reducir el papeleo pueden debilitar a la burocracia, pero jamás erradicarla.

También identifican a la burocracia con el riguroso cumplimiento de las instrucciones, con el dominio absoluto de éstas. Pero es que, en realidad, un funcionario burócrata cumple al pie de la letra las leyes solo en los casos cuando éstas corresponden a los deseos de sus superiores. Los numerosos incumplimientos de las leyes e instrucciones "en calidad de excepción" son propios, precisamente, de los sistemas burocráticos con dependencia personal jerárquica. Precisamente en esta esfera rige "la ley del teléfono"...

Allí es donde hace falta buscar la solución al bien sabido "enigma de la autonomía" de las capas medias y hasta inferiores de la burocracia. Ya hemos oído y leído mucho de las arbitrariedades de los funcionarios, de la oposición de éstos a las cláusulas de la ley bien definidas. Y ahora vemos como un pequeño funcionario boicotea la contrata familiar, la creación de cooperativas, etc. En realidad, su "autonomía" es solo una apariencia, ya que el burócrata se guía no tanto por la ley, cuanto de las orientaciones que se le dan oralmente desde arriba, que con frecuencia son, por cierto, bastande vagas ("existe la opinión", "fíjese que no sea...", "pero nadie le quita de encima la responsabilidad"). El funcionario se pone valiente cuando está seguro de que sus acciones se ajustan a las orientaciones de sus superiores, que él conoce pero que son desconocidas para los demás. De los funcionarios rebeldes los sistemas burocráticos se liberan rápido y de la manera más decidida.

Cualquier sistema jerárquico posee cierta inercia. Los escalones inferiores demoran en reorientarse al cambiar las directrices a nivel superior. Pero una cosa es la demora de la perestroika, y otra distinta es el sabotaje de las decisiones de los superiores por parte de las capas administrativas inferiores. Dicen que la reforma económica, proclamada en los años 60, fue frustrada por todo tipo de interpretaciones y "explicaciones", que le daban a ésta funcionarios ministeriales. Es una tesis bien dudosa. Si los eslabones superiores del sistema administrativo hubieran estado realmente interesados en la realización de tal reforma, el aparato burocrático hubiera cumplido las tareas planteadas por los superiores, a pesar de su inercia e incluso resistencia interna.

Desde luego, la estructura jerárquica es propia de cualquier sistema de dirección. Todo depende de la medida y del carácter de la dependencia de los escalones inferiores de los superiores. La dependencia burocrática puede ser liquidada cuando todos los cargos son electivos, en medio de la plena transparencia en la actividad del aparato, con lo cual las acciones de cada funcionario podrían ser controladas no solo por su superior, sino también por la opinión pública. Eso es lo más importante.

**Román LEVITA,**
**candidato a doctor en ciencias económicas**
**Mijaíl LOIBERG,**
**candidato a doctor en ciencias históricas**

# QUE SE REQUIERE PARA IR A VISITAR A LOS PARIENTES

Más de una vez surgió este problema para la mayoría de nuestros lectores y ellos saben que hace muy poco tiempo atrás en la tramitación de documentos para un viaje particular se debía perder mucho tiempo y esfuerzos. Desde el 1º de enero del año 1987 entró en vigor la Disposición del Soviet de Ministros de la URSS "Sobre la adición de complementos en los Reglamentos de entrada y salida de la Unión de Repúblicas Socialistas Soviéticas". A las preguntas referentes a los cambios en las reglas para la formalización de documentos para viajar al extranjero de los ciudadanos soviéticos y para ciudadanos extranjeros la entrada a la URSS, nos responde el vicejefe de la Sección de visas y registros de la Dirección de asuntos interiores del Comité ejecutivo de la ciudad de Minsk (SVYR) Uladimir Matusievich.

— Antes para salir al extranjero por invitación de parientes se debía reunir una considerable cantidad de documentos: certificados, recomendaciones, etc. ¿Cuál es la situación ahora?

— Quiero añadir que ahora se trata no sólo de visitar a parientes, sino también a amigos y conocidos en otros países. Para obtener los documentos, para un viaje así se debe rellenar un pequeño formulario añadiendo a éste la invitación. Antes también existía el formulario, el que se componía de más de 30 preguntas, había que certificar algunos puntos en el lugar de trabajo o el de residencia. Ahora el formulario tiene sólo de 5 a 7 preguntas, en dependencia del país de destino. No es necesario ningún otro documento.

— ¿Significa esto que una persona puede viajar al extranjero sin el previo conocimiento inclusive de la administración de la empresa dónde trabaje?

— Es posible. El ciudadano de la URSS tiene derecho de pasar sus vacaciones como se le ocurra. Y si decide ir de visita a otro país, es un asunto personal suyo.

— ¿Han quedado algunas restricciones para salir del país?

— Sí, claro. Estas restricciones existen, así como en todos los países. Por ejemplo, la salida del país por asuntos privados se prohibe a ciudadanos de la URSS si éstos conocen secretos estatales o por otros motivos relacionados con la seguridad del estado, hasta perder la vigencia los motivos que impiden su salida. Todos estos motivos están enumerados en la disposición.

— ¿Qué cambios se han operado respecto a la entrada en nuestro país y la estancia en él?

— Hay muchos. Por ejemplo, ahora se desarrolla en gran escala la cooperación internacional. Los representantes de firmas extranjeras que trabajan en la URSS tienen visas de vigencia para determinado período, esto significa que no tienen necesidad de recurrir por el permiso de entrada o salida del país. En lo que se refiere a la entrada al país para visitar a parientes también hay cambios. Los ciudadanos reciben la invitación o formalizan personalmente los documentos en los consulados soviéticos en sus respectivos países. Tales visitas son posibles varias veces al año.

— Muchos de nuestros compatriotas residentes en el extranjero son ciudadanos de la URSS. ¿Qué puede decir sobre esta categoría de personas?

— Ellos tienen derecho a desplazarse libremente por el territorio del país, excluyendo aquellos lugares en los cuales la entrada para todos los ciudadanos de la URSS requiere un permiso especial. Cuando personas de esta categoría llegan para un período de hasta 45 días, inclusive no necesitan registrarse. A propósito, hay que decir que ahora hay bastantes matrimonios mixtos entre ciudadanos soviéticos con extranjeros. Con frecuencia los miembros de estas familias viven separadamente, cada uno en su país. Y los ciudadanos de la URSS, cuyos esposo, esposa u otros parientes cercanos viven en el extranjero tienen el derecho de ir allí libremente. Ahora los documentos para salir del país son válidos por seis meses y durante este período de tiempo no se limita la cantidad de viajes, esto quiere decir que con los mismos documentos es posible viajar varias veces. Los ciudadanos soviéticos que viven en el extranjero también tienen derecho de regresar cuando lo deseen a su país.

— ¿Qué plazos existen para formalizar los documentos para salir al extranjero y entrar en la URSS?

— La solicitud para entrada a la URSS y para salir de visita o para residencia permanente se considera durante un mes, y sólo cuando es necesario un examen adicional este plazo puede ser prolongado, pero no debe ser mayor de seis meses. Hay que añadir que a diferencia de las reglas que existían anteriormente, cuando se determinaba el día de partida y el puesto fronterizo por el cual había que salir, ahora durante seis meses el mismo ciudadano decide la fecha y el itinerario.

# ДОБРЫЯ СЛОВЫ— МАСТАКУ







**У невялікай зале Дома работнікаў мастацтваў, дзе ў пачатку года экспанавалася персанальная выстаўка члена Саюза мастакоў БССР Уладзіміра Ткачэнкі, нібы сустрэліся ўсе поры года. Свежы брыз рабаціў гладзь азёраў, залацілася лісце асветленага восеньскім сонцам гаю, іскрыўся снег пад пранізліва блакітным студзеньскім небам...**

**«У гэты марозны вечар да нас у душу вярнулася вясна, прыйшло лета...», «Дзякуй за ваш талент. Ваша мастацтва — сапраўднае...» Усе гэтыя добрыя словы напісалі тыя, хто прыйшоў на выстаўку і каго яна кранула. Рэальна адчувальная любоў аўтара да беларускай прыроды, жаданне зберагчы яе адвечную прыгажосць, уменне перадаць розныя адценні яе стану забяспечылі У. Ткачэнку поспех. І яшчэ — зайздроснае пачуццё аптымізму, спакойнага, узвышанага, які пераконвае ў тым, што да існуючай ў прыродзе гармоніі павінен імкнуцца і чалавек.**

**— Калі мяне ўпершыню запрасілі ўдзельнічаць у выстаўцы, я быў задаволены. Але работу не прынялі. Гэта, вядома, засмуціла, — гаворыць Уладзімір Аляксандравіч. — Толькі пазней зразумеў, як гэта было разумна — не спяшацца. Пяць год адвёў на роздумы, на працу. Многае паспеў спасцігнуць, назапасіў пэўны творчы багаж.**

**Летась адбыліся персанальныя выстаўкі У. Ткачэнкі ў Мазыры, Гомелі. У студыі Палаца культуры Мінскага трактарнага завода Уладзімір Аляксандравіч выступае яшчэ і ў ролі педагога, дзе займаецца больш за сорак маладых людзей.**

**НА ЗДЫМКУ: у студыі Палаца культуры Мінскага трактарнага завода; мастак У. ТКАЧЭНКА; работа мастака «Ядловец».**

**Фота У. ШУБЫ.**

Яраслаў ПАРХУТА

# ПОЛЫМЯ

**Неўзаба ашы замежныя чытачы атрымаюць кніжку Яраслаг рхуты «Пад высокім сонцам», якая папоўніць вядомую ўжо суайчыннікам ;рыю «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы». Сабраныя ў ёй нарысы пісьменнік назваў эцюдамі роднага краю. Галоўнае ў іх — замілаванасць да сваёй зямлі, да любай сэрцу аўтара Беларусі, якую ён аб'ездзіў і выхадзіў, відаць, усю ўздоўж і ўпоперак. Гэта — і глыбокая павага да нашай гісторыі, да яе гераічных і трагічных старонак, да паданняў народных, якія яднаюць пакаленні, дзень учарашні з днём сённяшнім. У эцюдах Яраслава Пархуты няма мастацкага домыслу, а толькі асэнсаваныя аўтарам факты, пра якія дазнаўся ў сваіх вандроўках, сваё стаўленне да ўбачанага, пачутага, уведанага. Цікаўнае вока пісьменніка заўважае незвычайнае ў нашым звычайным жыцці, яго імкненне падзяліцца ўбачаным, пачутым, знаходзіць удзячны водгук у душы чытача.**

**Нарыс «Полымя», з якім мы сёння знаёмім вас, дае ўяўленне аб змесце будучай кніжкі Яраслава Пархуты.**

МАЎКЛІВА стаяў лес. Падчас толькі па верхавінах прабягаў ветрык. Тады дрэвы злёгку пагойдваліся і чуўся ледзь улоўны пошум. Матылямі апускалася на дол жоўтае лісце.

А дарога бегла і бегла. Здавалася, ёй канца не будзе сярод гэтых вось елак, бярэзін ды сосен. Іншы раз верх бралі адны бярэзіны, і дарога падсвечвалася: уздоўж яе стаяў быццам паркан з белых камлёў. Вецце ў большасці бярэзін было яшчэ зялёным. Аднак некаторыя дрэвы, на здзіў астатнім, ажно палыхалі — так іх аздобіла матухна-восень. Птушак бы сюды! Хай уславілі б гэтае дзіва. Але іх не было: паляцелі ў вырай.

Яшчэ пара вёрст, дарога павярнула ўправа, і хутка я выйшаў на паляну. Тут і была вёска Полымя. дзе жыве дзед Сашко...

Калісьці над Котрай стаялі дрымучыя лясы. Баравіны былі — вока цешылася. Цяперашняя сасна—стусіна ў параўнанні з колішняй. У лесе вадзілася шмат рознага звера. Усё тое дабро трэба было берагчы, ахоўваць. І ўлады паслалі туды палясоўшчыкам кемнага мужыка па прозвішчу Дземша. Дземша не адзін падаўся ў глухі кут — з маладой жонкай. Пабудавалі яны леснічоўку, а каб мець хлеб і да хлеба — сталі ляда карчаваць, дзялянку паблізу жытла выпальваць. За логам, перад узгорыстым борам, вечна гарэла, вечна курадыміла, вечна відно было полымя. Адсюль і мясціна, дзе пасяліўся палясоўшчык, стала звацца Полымя. Ішлі гады, у палясоўшчыка Дземшы з'явілася ажно шасцёра сыноў. Былі яны, як і бацька, працавітымі, стараннымі хлопцамі. Хто гаспадаркай займаўся, хто бортніцтвам, хто па лясной справе. Усе жылі дружнай, адзінай сям'ёй. А потым пачалі абзаводзіцца і сваімі сем'ямі. Жонак бралі з Лішчыц, Бандароў, Вострава, Сіняга Каменя, Баброўні, Забярэзіны, Шкленска. Нават калі пажаніліся, доўгі час не адыходзілі ад бацькі.. Пабудавалі новую хату на два канцы. І жылі пад адной страхой. Старыя людзі казалі, што ад адмены прыгоннага права сям'я Дземшаў налічвала трыццаць шэсць чалавек. Потым усё ж рассяліліся Дземшы. Але зноў-такі: не раз'ехаліся, а пабудаваліся побач. Утварылася невялікая вёсачка з сямі хат. Нярэдка Полымя звалі і так: Дземшы. Бо ўсе жыхары мелі адно прозвішча — Дземша.

Дзед Сашко, ці Аляксандр Ульянавіч Дземша, не ведае, як звалі прадзеда. А вось імёны тых, хто жыў да імперыялістычнай вайны, памятае. Акрамя Ульяна, бацькі ягонага, у Полымі жылі Сымон, Грыша, Аляксандр, Ілья, Макар і Мікалай. Усе яны даводзіліся дзеду Сашко роднымі дзядзькамі. Вёска тады не мела і паўсотні дзесяцін зямлі. Ды і тая варта смеху была — суцэльны пясок ды глей. Таму амаль усе Дземшы па-ранейшаму знаходзілі прыробак у лесе. Лес быў для іх і карміцель, і апора.

Першая бяда напаткала Полымя ў час імперыялістычнай вайны. Калі набліжаўся фронт, усе яе жыхары паспелі выехаць у бежанцы, у Расію. А вярнуліся — вачам не паверылі: ніводнай хаты! Усе сем сяліб з дымам пайшлі. Аднак Дземшы — людзі працавітыя. На старых котлішчах зноў пабудавалі хаты, а пры іх — адрыны, хлеўчукі, склепы. Жыццё пачало ўваходзіць у сваю каляіну. Але зноў у свеце ўсчалася неразбярыха: улады змянялі адна адну. Да сорак першага, за дваццаць сем гадоў, у Полымі правіла ажно сем улад — царская, савецкая, польская, нямецкая, зноў польская, зноў савецкая і, нарэшце, зноў нямецкая. Пры апошняй, нямецкай, Полымя спасцігла другая бяда.

Было гэта ў нядзелю, 18 ліпеня 1943 года. Летнім ранкам уварваліся ў вёсачку фашысты, сагналі ўсіх яе жыхароў у адрыну Мікалая Дземшы і адтуль ужо выводзілі пад сосны і расстрэльвалі. Дзед Сашко выпадкова застаўся жывым. Напярэдадні, у суботу, паехаў у Дубінку, адкуль была родам яго жонка Валя. Цешча Ярына кажа: чаго будзеш перціся на ноч гледзячы. Пераначуй!.. А раніцаю прыляцела ў Дубінку жудасная вестка: забілі фашысты Полымя, Сіні Камень, Шкленск... Дзед Сашко — на веласіпед і ў Азёры, каб дакладней уведаць, што здарылася. Бачыць: вазакі азёрскія і камчацкія (была такая вёсачка пры Азёрах — Камчатка) вязуць пад аховай паліцаяў маёмасць іхнюю, жывёлу гоняць. Хацеў распытаць вазакоў, а тыя: нічога не бачылі, нічога не чулі — стаялі воддаль... А прабраўся ў Полымя — захлынулася сэрца: за сялом, пад соснамі, магіла. Збольшага зараўняна. Зверху трошкі галля накідана. На месцы вёскі адны толькі коміны стаялі. Усе сем двароў зноў з дымам пайшлі. Толькі ў дадатак і трыццаць шэсць чалавек не стала. Трыццаць пяць палымянцаў і адзін з вёскі Сіні Камень — хлапчук Росцік Папрукайла, які прыбег да сяброў у Полымя...

У сорак пятым, калі адгрымела вайна, расстраляным родзічы паставілі помнічак. На ім выбіта: «Тут спачываюць загінуўшыя трагічнай смерцю ДЗЕМШЫ». Ніжэй, у два радкі, папросту, як пісалася, як прыйшло тады ў галаву, імёны жыхароў Полымя.

Пад спісам імён — словы: «Мір праху вашаму, дарагія бацькі, мацяркі, браты, сёстры, дзядзькі і цёткі, якія загінулі пакутніцкай смерцю 18 ліпеня 1943 г.».

Аляксандр Дземша вузлаватымі пальцамі кратае выбітыя на цэментавай пліце словы і кажа:

— Самыя старыя з іх Агаф'я, Сямён і Рыгор. Ім было па пяцьдзесят тры гады. Гэта мае траюрадныя сястра і браты, а наймалодшы быў — Алёшка. Сын мой. Яму толькі чатырнаццаць месяцаў споўнілася...

Дзед Сашко болей не мог вымавіць ні слова.

— Я ўжо казаў: прыбег сюды, а ў Полымі адны коміны чарнеюць ды пясок высвечвае ля магілы,— чуўся яго прыглушаны голас.— Пакруціўся на папялішчы, пакруціўся і змушаны быў назад у Дубінку падацца. А калі гітлераўцаў змялі адсюль, рашыў: будзь што будзе — пайду жыць на роднае котлішча! Рашыць то рашыў, а дзе, як, з чаго пачынаць? Мая Ліда Рыгораўна (яна стрыечная сястра Валі, першай жонкі) і не пярэчыла нават. «Неяк будзе!» — казала. І праўда. Хацінку скалацілі пяць на чатыры і пераехалі. У сорак восьмым брацельнік мой, Ляксей, з Урала, з вайскавога шпіталя, вярнуўся. Хоць і не вельмі якая, але пара рук прыбавілася. І сталі мы вось гэту хату будаваць. Самі і лес тралявалі, самі і бёрны пілавалі, самі і зруб рабілі... А потым, як Ляксей ажаніўся, і яму такую ж хату паставілі. У той час з'явілася ў Полымі і трэцяя хата — Шуркі Дземшы, па мужу Рамановіч. Шурка да вайны выйшла замуж у Стральцы, але яе чалавек з фронта не вярнуўся... І рашыла яна з сынам таксама ў Полымя пераехаць. На падмурак бацькавай хаты перавезла тую, са Стральцоў, хату і жыве, дзе нарадзілася.

Дзед Сашко зноў палез па курыва.

— Потым, само сабою, дзеткі пайшлі,— працягваў ён свой расказ.— Праз колькі год у Полымі нашым было ўжо дванаццаць душ! Бывала, вяртаешся з абходу (я палясоўшчыкам да самай пенсіі працаваў!), дык здалёк чуеш дзіцячы гоман. Душа радавалася. І нейк патроху забывалася тое гора. Аднак павырасталі дзеці ды паразляталіся, як тыя птушаняты з гнязда,— ён крыва ўсміхнуўся.— А, прызнацца, думалася: зноў у Полымі сем хат будзе! Ды ці сем? Болей! Але надзея не спраўдзілася...

Дзед Сашко адчайна зацягнуўся і зноў раскашляўся. На гэты раз ён кашляў даўжэй. Відаць пачуўшы той кашаль, аднекуль прытупала з кіёчкам у руках бабка Ліда, прысела побач:

— Разбухікаўся! — нібы папракнула яна мужа і ўжо звярнулася да мяне: — А вы ўсё гамоніце і гамоніце, і ўсё пра бяду нашу... Ды не адно Полымя перажыло такое. Вунь і Шкленск таксама ў той дзень расстралялі, і Сіні Камень... Таксама коміны адны засталіся ад вёсачак.

У хляве пачала рыкаць Кветка. Дзед Сашко падняўся і пайшоў на панадворак. Бабка Ліда быццам і не звярнула на ўсё гэта ўвагі, прамовіла:

— Паслухайце лепей, што я пра Сіні Камень уведала!— яна павярнулася тварам да мяне, і я не мог не заўважыць на ім слядоў колішняй прыгажосці — не крыклівай, не кідкай, а па-сялянску строгай і простай. Павярнулася і стала расказваць:— Назва сяльца пайшла ад каменя сіняга, што ляжаў пры выгане. Ён быў пляскаты, круглы і ў калена ростам — як дзежка ўсё роўна. Спрадвеку ляжаў, нікому воч не мазоліў. А са Шкленска адзін чалавек рашыў скарыстаць яго. Ноччу паехаў канём і забраў. Паклаў пад вугал хаты і радуецца: лепшай апоры і не трэба! Ды з тае хвілі не стала шыхаваць яму. То скаціна падала, то дзеці ўміралі. Людзі пытаюцца: «Мо ты, чалавеча, зрабіў што благое?»— «Не, — кажа ён,— вось толькі хіба камень сіні ад вёскі суседняй прывёз...»—«Яно і ёсць! — сказалі бабы.— Праступленне зрабіў, таму і кара такая». І параілі яму вярнуць той камень назад. Паслухаўся чалавек, выдраў з-пад вугла камень, ускаціў на воз. Але да вёскі не даехаў, стыдна зрабілася перад людзьмі.

**(Заканчэнне будзе).**

## ЯК ПРЫМАЮЦЬ СЁННЯ ЗА МЯЖОЙ САВЕЦКАЕ КІНО

# ЦІКАВАСЦЬ МАСАВАЙ АЎДЫТОРЫІ

«Краіна, у якой ствараюцца такія фільмы, як «Ідзі і глядзі» Элема Клімава і «Мой сябар Іван Лапшын» Аляксея Германа, не можа быць абвінавачана ў тым, што яна хаваецца за маскай надзейнай шэрасці...» — гэта фраза з артыкула Дэрэка Малькольма ў англійскім часопісе «Інтэрнэшнл фільм Гайд» даволі трапна адлюстроўвае сённяшнія адносіны замежнай кінакрытыкі да савецкага кінематографа. Але гэта ацэнка спецыялістаў.

А як жа радавыя гледачы?

Ускосна аб узроўні цікавасці масавай аўдыторыі можа сведчыць такі факт: на відэарынку ЗША і Канады цяпер «гуляюць» некалькі соцень савецкіх фільмаў, запісаных на касеты «пірацкім спосабам» (г. зн. без куплі аўтарскіх правоў). «Каб спыніць гэта,— гаворыць намеснік старшыні «Савэкспартфільма» Віктар Кухарскі,— мы вымушаны звярнуцца за дапамогай да судовых інстанцый. Дарэчы, нашы прадстаўнікі за мяжой зрабілі цікавае назіранне: «украдзенымі» аказваюцца перш за ўсё такія фільмы, як «Гараж», «Тэма», «Плывец», гэта значыць тыя, на якія «Савэкспартфільм» атрымаў дазвол на продаж за мяжу далёка не адразу».

Неапраўданыя замаруджанні з атрыманнем дазволу на экспарт, несумненна, шкодзяць камерцыйнаму поспеху савецкіх стужак. У якасці прыкладу Кухарскі прыводзіць такі факт: тэлевізійныя кампаніі ўсяго свету літаральна малілі прадаць ім правы на паказ дакументальных стужак «Звон Чарнобыля» і «Чарнобыль — хроніка цяжкіх тыдняў». Дазволу не было нават да гадавіны аварыі. Цяпер ён ёсць, але, як гаворыцца, «дарагая лыжка к абеду». Сёння гэтым фільмам ужо не стаць бестселерамі...

Якія яшчэ праблемы?

Імкнучыся да эканоміі, «Савэкспартфільм» выключна мала расходуе на рэкламу. Але такая «эканомія» ў выніку абарочваецца значнымі стратамі, таму што на Захадзе ў адрозненне ад СССР нават самы выдатны фільм не збярэ масавую аўдыторыю, калі прэм'еры не будзе папярэднічаць сур'ёзная (і, натуральна, дарагая) рэкламная акцыя.

Паводле слоў Віктара Кухарскага, савецкія стужкі занадта мала пакуль дубліруюцца на замежныя мовы: прыкладна 10—12 штогод. Але многія краіны Азіі, Афрыкі, і Лацінскай Амерыкі стараюцца набыць менавіта дубліраваныя фільмы: пісьменнасць там яшчэ далёка не дасягнула ста працэнтаў; гэта акалічнасць сур'ёзна абцяжарвае распаўсюджанне фільма з субцітрамі.

Прыкрая перашкода на шляху камерцыйнага поспеху — тэхнічная недасканаласць кінаматэрыялаў. Вобразна кажучы, «Чырвоныя званы», адзнятыя на плёнцы Шосткінскага хімкамбіната, выглядалі б крыху ружовымі. У савецкіх фільмах няма гукавых стэрэаэфектаў, запісаных у сістэме «долбі», — вядучыя кінафірмы часта не бяруць савецкіх фільмаў менавіта па гэтай прычыне. Зрэшты, удакладняе Кухарскі, адмовы перш за ўсё распаўсюджваюцца на стужкі, чые мастацкія вартасці выклікалі супярэчлівую, мякка кажучы, ацэнку і ў Савецкім Саюзе: напрыклад, у «Савэкспартфільма» былі сур'ёзныя цяжкасці з продажам такіх карцін, як «Еўрапейская гісторыя», «Бераг», «Перамога» (гэтыя фільмы былі справядліва раскрытыкаваны ў СССР). І хоць у кожнай краіне адны і тыя ж фільмы ўспрымаюцца па-рознаму (скажам, «Тайны мадам Вонг» за мяжой карыстаецца, большай, чым на радзіме, папулярнасцю), бясспрэчнага камерцыйнага поспеху дабіваюцца, як правіла, фільмы, якія сталі падзеяй у савецкім кінематографе. Вось толькі некалькі водгукаў.

«Не выклікае сумненняў, што фільм Тэнгіза Абуладзе «Пакаянне» — адзін з найбольш важных фільмаў, зробленых у Савецкім Саюзе пасля другой сусветнай вайны...», — адзначае Рон Холуэй у амерыканскім часопісе «Галівуд Рыпортэр». «Нават пры самай вялікай фантазіі гэты фільм нельга класіфікаваць як традыцыйную палітычную прапаганду. Любы, хто шукае прыкметы новага жыцця савецкага кінематографа, павінен пачаць менавіта з прагляду гэтага фільма», — піша пра карціну Канстанціна Лапушанскага «Пісьмы мёртвага чалавека» ў англійскім «Абсерверы» Эндру Уілсан. «Развітанне» — крык у абарону ісціны, шэдэўр, які нельга прапусціць; гэта метафарычны расказ аб страце сапраўдных каштоўнасцей», — гаворыць пра фільм Элема Клімава Ан дэ Гасперы з «Кацідзьен дэ Пары».

Меркаванне крытыкаў падтрымліваюць і кінабізнесмены. Яны ахвотна набылі кожную з названых стужак. Што ж тычыцца «Пакаяння», то гэты фільм прададзены (па кантракту з амерыканскай фірмай «Кэнон») практычна ва ўсе краіны свету. У шэрагу савецкіх фільмаў, якія карыстаюцца поспехам у замежных пакупнікоў, Кухарскі назваў «Кур'ер», «Плюмбум, ці Небяспечная гульня», «Кін-дза-дза», «Капітан «Пілігрыма», «Рысь вяртаецца», «Новыя казкі Шахеразады», «Мой любімы клоун»... Спектр тэм, жанраў і творчых манер у гэтым спісе даволі шырокі. Вялікую ролю адыгрываюць і імёны рэжысёраў. У апошнія гады «партнёры» «Савэкспартфільма» абавязкова цікавяцца фільмам, калі ведаюць, што ў яго цітрах імёны такіх майстроў, як Тэнгіз Абуладзе, Вадзім Абдрашытаў, Аляксей Герман, Элем Клімаў, Кіра Муратава, Мікіта Міхалкоў, Эльдар Разанаў.

Не застаюцца незаўважанымі лепшыя работы рэспубліканскіх студый, многія краіны набываюць фільмы беларускіх, грузінскіх, узбекскіх, азербайджанскіх кінематаграфістаў. Добра ведаюць за мяжой савецкую мультыплікацыю. Цікавасць да яе ўзрасла пасля таго, як фільм Юрыя Нарштэйна «Казка казак» быў названы міжнародным журы «лепшым мультыплікацыйным фільмам усіх часоў і народаў». Замежныя кінафірмы гатовы набываць савецкія мультыплікацыйныя фільмы ў вялікай колькасці.

Да сённяшняга дня савецкае дакументальнае кіно было мала вядома ў краінах, якія лічацца цэнтрамі сусветнага кінематографа. Але дзякуючы фільму Юрыса Подніекса «Ці лёгка быць маладым?» аб ім загаварыў літаральна ўвесь свет.

Віктар Кухарскі тлумачыць, што, распаўсюджваючы савецкія фільмы за мяжой, «Савэкспартфільм» ідзе рознымі шляхамі. Гэта і разавыя продажы фільмаў, і продаж «пакетаў» карцін фірмам, якія арганізуюць Дні і Тыдні савецкага кіно, і забеспячэнне рэпертуару кінатэатраў, якія займаюцца выключна пракатам савецкіх фільмаў (такія кінатэатры ёсць у Фінляндыі, Іспаніі, Францыі, Егіпце, Японіі і г. д.). Некаторыя фірмы (напрыклад, амерыканская «Хэрытэдж інтэрнэшнл», канадская «Фільм-2000») нядаўна прапанавалі «Савэкспартфільму» арганізаваць кампаніі па сумеснаму пракату савецкіх стужак у іх краінах. Перагаворы па гэтых прапановах вядуцца.

«У савецкага кінаэкспарту, — гаворыць Віктар Кухарскі, — нямала нявырашаных пытанняў, але яны, мы спадзяёмся, будуць вырашаны ў ходзе пачатай сур'ёзнай эканамічнай рэформы савецкага кіно».

**Рыгор МАЙЗУС.**

## НА МОВАХ СВЕТУ

### ГДР

Берлінскае выдавецтва «Нацыён» выпусціла нядаўна ў перакладзе Клаўса-Дзітэра Голя на нямецкую мову аповесць Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт». На супервокладцы змешчана кароткая анатацыя: «Кожны ахвотна нешта купляе ў яе, юнай, прывабнай, энергічнай Вольгі, калі яна стаіць за прылаўкам на мінскім базары і прапаноўвае гародніну і бліны. Гандаль у яе ідзе добра і нават тады, калі ўлетку 1941 года немцы акупіруюць горад. Вольга ўмела прыстасоўваецца да новых абставін. ...Яна часам частуе самагонкай аднаго паліцая, які на службе ў немцаў. Ёй жа прыходзіцца клапаціцца пра маленькую дачку—не паміраць жа ім з голаду. Толькі сустрэча з маладым паэтам, які аддаецца справе вызвалення сваёй Айчыны, раскрывае Вользе вочы і надае яе жыццю новы сэнс».

Пра аўтара аповесці ў анатацыі сказана, што Іван Шамякін — слынны прадстаўнік беларускай сучаснай літаратуры, вядомы ў ГДР раманамі «Сэрца на далоні» і «Снежныя зімы», у сваіх творах пра Вялікую Айчынную даследуе перш за ўсё ўчынкі суайчыннікаў на фоне драматычных падзей.

### БАЛГАРЫЯ

Перакладчык аповесці Васіля Быкава «Знак бяды» на балгарскую мову Найдзен Вылчаў пісаў: «Гэта выдатная кніга, якая хвалюе чытача незвычайна. Яна —своеасаблівы працяг галерэі жыццёвых гісторый, якія па-мастацку ўвасабляе В. Быкаў, але ёсць у ёй і нешта новае— вяртанне ў даваеннае беларускае сяло. Перакладаць кнігу было вельмі цяжка. Лічу, што брацца за пераклад такой аповесці можна толькі тады, калі ведаеш амаль усё, напісанае яе аўтарам, калі імкнешся спасцігнуць, адчуць, зразумець непаўторнасць яго пісьменніцкай манеры... Манера пісьма Быкава скульптурна-рэльефная, павольная, паступовая, яго цікавяць і падрабязнасці, але не як самамэта, яны служаць агульнай ідэі, дапамагаюць ствараць паўнакроўныя вобразы. Яго героі запамінаюцца надоўга, яны жывуць у нашай свядомасці, разам з намі і сёння, узбагачаюць нас духоўна, пазіраючы часам на нас сваім строгім і дакорлівым поглядам».

### ЧЭХАСЛАВАКІЯ

Пражскае выдавецтва «Лідове накладатэльстві» ў серыі «Народная бібліятэка» выпусціла раман Уладзіміра Караткевіча «Чорны замак Альшанскі». На чэшскую мову твор пераклала Нана Мюлерава. У анатацыі, змешчанай на супервокладцы, пра твор беларускага пісьменніка сказана: «Дзеянне прыгодніцкага дэтэктыўнага рамана У. Караткевіча адбываецца ў нашы дні, але кнігай будуць захапляцца і аматары гістарычнай прозы, якія любяць старыя замкі, таемныя падзямеллі, даўнія любоўныя гісторыі, старажытныя запісы, загадкавых дам і манахаў у чорным, таму што галоўным героем кнігі з'яўляецца гісторык, які шукае скарб, згублены ў XVII стагоддзі. Міжвольна герой трапляе ў гісторыю больш блізкую, карані якой ідуць у другую сусветную вайну, і такім чынам ён павінен раптам замест адной загадкі раскрываць адразу некалькі. Пакуль ён іх раскрывае, то трапляе ў розныя сітуацыі, героя нават спрабуюць забіць... Кніга напоўнена драматычным дзеяннем, і яна, бясспрэчна, захопіць чытача».

Выдавецтва паведамляе таксама, што чэшскі чытач ужо меў магчымасць пазнаёміцца з кнігамі Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» (1972, выйшла пад назвай «Каралеўская помста»), «Нельга забыць» (1975, выйшла пад назвай «Леаніды не вернуцца»), «Хрыстос прызямліўся ў Гародні (1979, выйшла пад назвай «Евангелле паводле Іуды»).

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**




## ДАКУМЕНТЫ РАСКАЗВАЮЦЬ

Неўзабаве мы будзем адзначаць 500-годдзе з дня нараджэння тытана эпохі Адраджэння, заснавальніка рэнесансна-нацыянальнай традыцыі ў культуры ўсходнеславянскіх народаў, беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Нядаўна ў выдавецтве «Навука і тэхніка» пабачыла свет кніга «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў», які выйшаў пад эгідай Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

Гэты зборнік — плён даследчай работы аднаго са шчырых руплііўцаў на ніве гісторыі нацыянальнай культуры В. Дарашкевіча, які з'яўляецца аўтарам прадмовы, укладальнікам матэрыялаў, а таксама каментарыяў і імяннога паказальніка.

Рыхтуючы зборнік у адпаведнасці з планам рэспубліканскай комплекснай праграмы ў галіне грамадскіх навук «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры», распрацаванай у 1980 годзе камісіяй Акадэміі навук БССР па вывучэнню культурна-гістарычнай спадчыны першадрукара, В. Дарашкевіч сабраў дакументы, якія тычацца жыцця і творчасці Скарыны, жыцця яго сваякоў і блізкіх людзей. У кнігу ўвайшлі таксама і матэрыялы, звязаныя з імем першадрукара. Большасць з гэтых публікацый узята з выданняў, якія даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, з архіваў — як айчынных, так і замежных.

## БАЛЕТУ ВУЧАЦЦА Ў МІНСКУ

У зале Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі перад навучэнцамі Мінскага харэаграфічнага вучылішча выступілі дзевятнаццаць маладых артыстаў з Японіі — удзельнікаў спецыяльнага тура «Рускі балет». На працягу шаснаццаці дзён яны пад кіраўніцтвам вядомых беларускіх харэографаў і выкладчыкаў авалодвалі сакрэтамі класічнага танца. Свой заключны канцэрт, названы «Танцы Японскіх астравоў», госці выканалі па-за праграмай пасля таго, як строгія экзаменатары змаглі ацаніць атрыманыя ў Мінску навыкі і ўручылі групе дыпломы аб заканчэнні курса.

Гэты канцэрт стаў падарункам гасцінным гаспадарам, якія дапамаглі японскім артыстам хутчэй засвоіць мову славутага рускага балета. Кіраўнік тура дырэктар Япона-савецкай асацыяцыі прыхільнікаў мастацтваў Іансіра Сеіта ў Мінску ўжо пяты раз і можа меркаваць аб рэзультатыўнасці такіх балетных тураў хоць бы па тым, што ўжо некалькі балерын, якія прайшлі падрыхтоўку пад кіраўніцтвам педагога Клары Малышавай, выступаюць на прафесіянальнай сцэне ў японскіх тэатрах.

# ВЫСТАЎКА АДНАГО ДНЯ

Выстаўка-продаж аднаго дня. Так называлася традыцыйнае свята, якое прайшло ў Мінску ў адну з нядзель красавіка. У скверы імя Янкі Купалы і Цэнтральным дзіцячым парку імя Максіма Горкага экспанаваліся работы прафесійных і самадзейных мастакоў: карціны, разьба па дрэву, лепка. Многа было зроблена рукамі хлопчыкаў і дзяўчынак з гуртkoў мастацкай творчасці сярэдніх школ і Дамоў піянераў. Усё гэта можна было тут жа і набыць.

Яшчэ адна асаблівасць. Выстаўка-продаж аднаго дня супала з Усесаюзным тыднем выяўленчага мастацтва, на які ў Мінск з'ехалася шмат гасцей з многіх саюзных рэспублік. Так, з Масквы, напрыклад, прыехалі член-карэспандэнт Акадэміі мастацтваў, доктар мастацтвазнаўства В. Талстой, сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР А.Марозаў, а таксама мастакі з Малдавіі, Латвіі, Літвы. Яны з задавальненнем прынялі запрашэнне прыняць удзел у свяце. Член праўлення Саюза мастакоў Казахскай ССР Шакірбек Саменаў выказаў думку, што ідэю свята трэба перанясць і правесці яго і ў іншых рэспубліках.

Хлопцы і дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах з птушкамі ў руках арганізавалі карагод, назваўшы сваё прадстаўленне «Гуканне вясны». Да іх далучыліся і дарослыя, і дзеці.

Вялікая група наведвальнікаў сабралася ля народнай майстрыхі Мастацкага фонду БССР А. Фурс. Яна дапамагала кожнаму зрабіць з саломы жаваранка: на шчасце. Наведвальнікі таксама ўвайшлі ў журы, якое вызначала лепшы дзіцячы малюнак на асфальце.

Значная частка грошай, атрыманых на выстаўцы-продажы, пералічана ў Фонд міру.

НА ЗДЫМКАХ: моманты свята.

Фота У. МЯЖЭВІЧА і Г. УСЛАМАВА.










*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# СУМНЫ РОЗДУМ

Паважная і самастойная птушка грак. Паглядзіце, з якім незалежным выглядам пахаджвае ён вясною па раллі ці лугавіне ў сваім да бляску вычышчаным чорным гарнітуры. Колькі ў яго няспешнай хадзе пачуцця ўласнай годнасці, упэўненасці ў сабе, непахіснай адданасці толькі свайму, грачынаму ладу жыцця! Для яго гэта не проста спосаб існавання, а як бы найвышэйшая ступень птушынага дабрабыту і шчасця.

І нейкая прыродная мудрасць ёсць. Селяцца гракі каля людзей, каля бойкіх дарог. Так больш бяспечна. Зноў жа калектывізм. Шумныя гнездавыя калоніі, сумеснае збіранне корму для сябе і дзяцей, палёты вялізнымі чародамі. Пры здабыванні спажывы карыстаюцца пры выпадку некаторым садзейнічаннем чалавека. У той жа меры, як, скажам, і жывёл. Грак няспешна крочыць, напрыклад, па свежай раллі за плугамі ці за баронамі. Гэтак жа, як за статкам кароў або каля табуна коней. Гэта не мяняе яго ладу жыцця, а толькі як бы садзейнічае яго рэалізацыі. Інакш кажучы, грак жыве сам па сабе, незалежна, па сваіх спрадвечных звычаях і прывычках. І хоць не цураецца ён чалавека, але нахлебнікам у яго не быў і не імкнуўся быць. Як, скажам, верабей, голуб або нахабная сарока. І на зіму не лез ва ўтрыманцы да чалавека, у грамадскія захрыбетнікі. Адлятаў у вырай.

Але так было раней.

За некалькі дзесяцігоддзяў у людзей і ў прыродзе ўсё даволі істотна і прыкметна змянілася. Пачалі назірацца змены і ў жыцці грачынага племені.

Восень стала зацягвацца, заступаць за зіму. Іншы раз на пару тыдняў, а то і на месяц. У пошуках корму чародкі гракоў пачалі асядаць увосень на прасторах гарадскіх паркаў, сквераў, пустыроў. Тут у іх з харчам асаблівых клопатаў не было. Таму з адлётам у вырай яны не спяшаліся. А калі потым у снежні або ў студзені завеямі і маразамі абрушвалася зіма, да адлёту ў вырай у гракоў ужо не было ніякага імпэту. Натуральныя ўнутраныя памкненні, закладзеныя ў іх істоце тысячагоддзямі, у гэты час іх не турбавалі. Гракі заставаліся зімаваць.

У першыя гады зімуючыя гракі не трацілі яшчэ свайго гонару. Хоць цяжка было з кормам, але стараліся здабываць яго самастойна, ранейшымі сваімі спосабамі і прыёмамі. Блукалі па дарожках у скверах і па дварах, корпаліся дзюбамі ў змерзлай траве і спластаваным лісці на выдмах, на ачышчаных спортпляцоўках. Зразумела, было ім без меры галодна і холадна. У маразы і сцюжу гракі нярэдка гадзінамі сядзелі, стуліўшыся, на тапалі дзе-небудзь у зацішку ў гарадскім двары. Унізе, каля скрынак з адходамі і смеццем, завіхаліся галубы, вераб'і, сініцы. Шумна пераляталі з месца на месца. А гракі не звярталі на іх завіханні ніякай увагі. Здавалася, што яны нават пагарджалі іх непрыстойнымі заняткамі. І, вядома, гінулі ад голаду.

А сёлета ўбачыў гракоў разам з галубамі і вераб'ямі на двары дзіцячага сада каля скрыняў з адходамі. Корпаюцца разам з імі, не звяртаючы ўвагі на людзей, якія блізка праходзяць. І дзе тая годнасць падзялася! Мала гэтага. Разам з галубамі кідаюцца туды, дзе бабулі з дзеткамі выносяць птушкам падкормку.

Бачыш, гракі пайшлі ўжо на вывучку да галубоў! І гэта, відаць, маладое пакаленне гракоў-наватараў ужо не прападзе з голаду. Галубінай смеласці і спрыту жабраваць каля людзей у іх яшчэ няма, але сёе-тое ўслед за галубамі спраўляюцца ўрваць і яны.

Сумна робіцца ад такіх змен у прыродзе. Успомніў пра мядзведзяў у вядомым амерыканскім парку, якія блукаюць каля турысцкіх гасцініц, ласуюцца аб'едкамі, выпрошваюць у людзей падачкі, пра тыгра, які ліжа руку чалавека, што кінула яму костку. Няважна, што ў гэтага тыгра на душы — поўная пакорлівасць ці хітрая лісліваць і падхалімства. Гэта ўжо не тыгр! Гэта ўжо таксама наш неадступны захрыбетнік — галубец.

Падумалася: «Божа! У што можаператварыць прыроду добры чалавек!? І ці трэба яна нам такая, падобная да нас»?

А. КРЫВІЦКІ.

## спорт

Так ужо атрымалася, што ў апошні час беларускія спартсмены ў асноўным удзельнічалі ў першынствах Савецкага Саюза. І вынікі іх выступленняў не могуць не радаваць.

Узяць, да прыкладу, гандбалістаў мінскага СКА. Перад апошнім фінальным турам яны апярэджвалі галоўных канкурэнтаў на 10 ачкоў. Такога вялікага адрыву аднаой каманды ад іншых яшчэ ніколі ў першынстве краіны не было. І таму, як і чакалася, беларускія спартсмены датэрмінова сталі чэмпіёнамі СССР.

Вельмі складаную задачу прыйшлося вырашаць хакеістам мінскага «Дынама» ў барацьбе за выхад у вышэйшую лігу. Яны з вялікай цяжкасцю прабіліся ў фінал. Ды і тут на першым часе выступалі не заўжды ўпэўнена. І толькі ў другой палове турніру сталі атрымліваць адну перамогу за другой. У выніку на фінішы змаглі ўвайсці ў чацвёрку мацнейшых. Цяпер мы ўбачым беларускіх хакеістаў у групе такіх каманд, як ЦСКА, маскоўскае «Дынама»...

Мы расказваем аб першынствах краіны, а між іншым даўно заўважана, што стаць чэмпіёнам СССР часам значна цяжэй, чым пераможцам міжнародных спаборніцтваў. Патрэбны прыклад?.. Калі ласка! Беларуская спартсменка Марына Лобач — лідэр савецкіх спартсменак па мастацкай гімнастыцы. Не пералічыць, колькі разоў станавілася яна пераможцай і прызёрам прэстыжных міжнародных спаборніцтваў. Але толькі нядаўна ёй удалося ўпершыню стаць чэмпіёнкай Савецкага Саюза ў Запарожжы.

На чэмпіянаце СССР па спартыўнай гімнастыцы ў Чэлябінску не пашчасціла Святлане Багінскай. Беларуская спартсменка рызыкоўна выконвала складаны элемент у вольных практыкаваннях і дапусціла памылку. У выніку — пятае месца ў агульным заліку. Тое, што гэта выпадковасць, наша спартсменка даказала нядаўна на матчы гімнастаў ЗША і СССР у Фініксе. Тут С. Багінская апярэдзіла ўсіх сапернiц.

Стаць чэмпіёнам краіны ці пераможцам на буйных міжнародных спаборніцтвах, значыць, стаць кандыдатам у алімпійскую зборную краіны. І такіх кандыдатаў нямала сярод беларускіх спартсменаў.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 770